# Радыёакенца

Як сабе хочаце, дарагія чытачы, але радыё — рэч не цікавая. Інакш кажучы, радыёапарат — гэта пусцяцкая вынаходка.

Напрыклад: вечарам слухаеце радыёперадачу — гавораць аб Францыі, Індыі і далёкіх гарадах, дзе што адбывалася, а пра нашу вёску ані слова. А мяне больш цікавіць жаніцьба Максіма мельніка, чым шлюб пярсідскага шаха. Таму што жаніцьба Максіма адбываецца ў нашай вёсцы, а шах сядзіць за сямю гарамі. З жонкай Максіма будзем спатыкацца штодзень і можа прыдзецца на хрэсбінах чарку кульнуць, а з шахавай бабай нават на кірмашы не сустрэнешся.

Дзеля таго я свой радыёапарат у хлеў вынес, няхай яго каровы слухаюць, а сам адчыніў акно і любуюся.

За акном птушкі на ўсялякія галасы заводзяць, петухі тэнарамі пяюць, адным словам, гукавых эфектаў больш, чым у радыё.

У суседзяў таксама акно адчыняецца і адразу гукаў дабаўляецца. Голас у суседкі высокі, грудны — пры ёй і Слава Пшыбыльская вераб'ём здавалася б — і гэты густы голас пакарае мужа.

— Замест работы ў полі рыбку вудзіш з Міхаськам. Цэлымі днямі сядзіш над вудачкай, з сябра прыклад бярэш. А Міхаська жыве падурному: ажаніўся па-п'янаму з Маланкай - нядбайніцай. У хаце ў Маланкі даўно ўжо чарвячкі завяліся.

— Вось, менавіта! — гудзе бас, — рыбаку чарвякі — перш за ўсё.

І скажыце, людзі ветлівыя, якое радыё паведаміла б, што ў Маланкі чярвякі ў хаце?

— Карова прыхварэла, працягвае суседка, схадзіў бы ты за доктарам, а то, чаго добрага, да бяды не далёка.

— Карова хворая, няхай карова і да доктара ідзе, а не я хадзіць буду, — ізноў агрызнуўся бас.

— Ціпун табе на язык. Бегаю штодзень з языком на барадзе малако здаваць, дык можа на гэты раз ты, князь рыбаковы, занясеш налог у грамадскую раду?

— Яшчэ чаго! Грошы аддаць заўсёды паспееш, сёння ідзем самоў на перамёт лавіць.

— Антыхрыст няхрышчаны! А я ізноў сама застаюся на гаспадарцы! Цьфу, на тваю галаву.

— Чаго плюешся, бацылы распускаеш. Сом — усім рыбам рыба. Табе лаўлю, дурная.

— А на рыбалцы гарэлкай заліваешся таксама для мяне? Думаеш, не ведаю, што Мітрысе за пяць літраў самагонкі не заплаціў? Ідал ракавы, ты... Жыццё мае згубіў, а цяпер гаспадарку на вецер пускаеш...

Людзі мае, ды якое ж радыё падало б, што Мітрыха самагонку ў крэдыт прадае. У ніякіх апошніх паведамленнях не пачуеце, што Міхась з сябрам па-п'янаму пустымі бутэлькамі рыбу глушаць.

Цяпер бас падняў свой голас:

— Хто тут у хаце гаспадарыць!

Тут сусед ударыў кулаком у стол, што аж пасуд задзільгаў.

У след за тым чуваць глухія ўдары мятлы, а грудны голас прыгаварвае:

— На табе, на табе, на табе...

А бас жаласліва разводзіць:

— Ашалела, Машанька, я ж толькі спытаў, хто тут гаспадарыць. Выходзіць, што і пацікавіцца нельга.

Тут акно зачынілася, і ранішняя перадача закончылася.

Эх, людзі! Часта забываем пра нашы адчыненыя вокны, а пасля здзіўляемся, адкуль нашы справы ўсёй вёсцы вядомы.

Дзядзька Лявон




У нас у грамадзе Гарасім
Не пахож на ўсіх зусім.
У Гарасіма быстры вочы,
Ён да працы не ахвочы.
Лёганька хацеў бы жыць,
Да таго ж гарэлку піць.

Гэтак, там то сям ўкрунецца
Ну і як бомак той нап'ецца.
І без памяці зусім
Дамоў едзе Гарасім.
Гэтак у год дзяньков са сто
Прападае за нішто.

# ГАРАСІМ

Мо таму Гараська наш
Любіць ездзіць на кірмаш.
Можа, калі хворы быў,
То кірмаш ён прапусціў.
Бо як чуецца здаровы
У сераду прэ ў Міхалова,
А ў чацвер у Беласток.
А ў аўторак ў Гарадок.
На надвор'е не зважае,
К каню літасці не мае.
На кірмашы Гарасім
Горкай рэдзькай уесца ўсім.
Цэлы дзень снуе па рынку,
Усё таргуе: цяля, свінку
І авечку, й парсюка
І кароўку і быка.
Таргашоў да згоды зводзіць,
У тым галоўну ролю водзіць.
Жарыць ў руку ой як шпарка
(Мо за гэта будзе чарка).

Каб не праца жонкі Варкі
Гузік быў бы з гаспадаркі
(Хоць і так у ёй нястача),
Бедна жонка плача — плача.
Недахоп ў двары і ў хаці,
Трэба йсці ўсё пазычаці.
Пазычаннем Гарасім
Надта жа збрыдае ўсім.
Ой, Гараська, Гарасім
З глузду з'ехаў ты зусім.
Пусткай звеціцца твой двор,
А ў будынках сто падпор,
У хаце няма мэблі, ложак,
Стол крывы, сталок без ножак.
Ці ты плот загарадзіў,
Ці ты дрэўцы пасадзіў?
Ой, Гараська, Гарасім,
Не радзіўся б ты зусім.

МІХАСЬ КРАСОЎСКІ
Малынка.




## МУЖЫК і ПАН

Ішоў па рынку пан. Праходзячы каля вазоў, дзе людзі таргавалі, убачыў, што ў кожнага мужыка ляжыць на возе свіння, і гаворыць:

— Што ні мужык, то свіння!

А мужык бачыць: як ідуць паны, дык за кожным бяжыць сабака. Ён і кажа:

— Што ні пан, то сабака!

ХВЕДАР МІХАЛЮК
Койлы

## Не распусціцца

На ўроку хіміі настаўнік пытае вучняў:

— Ну, як вы думаеце, калі я ўкіну манету ў кіслату, распусціцца яна?

Адзін вучань устаў і ўпэўнена кажа:

— Не распусціцца.

— А чаму? — пытае настаўнік.

— Таму што, каб манета распусцілася, то вы не кідалі б яе ў кіслату, — адказаў вучань.

МІКОЛА МІКАЛАЮК
Войшкі




## ПЕРАХІТРЫЎ

Абедалі гаспадар і парабак. Гаспадыня паставіла ім міску яешні. У місцы каля гаспадаравага боку ляжала скварка. Хоча парабак з'есці гэтую скварку, але лезці пад чужы бок не выпадае.

— Колькі каштуе, ягамосць, гэтая міска? — пытае парабак у гаспадара і круціць міску так, каб скварка апынулася каля яго боку.

— Дзесятку, — кажа гаспадар, паварочваючы міску скваркай да сябе.

— То не дорага, — кажа парабак, і зноў круціць міску.

Гаспадар не знайшоў больш чаго сказаць, і скварка засталася парабку.

ЮРКА СКЕПКА
Альхоўка

## НА БАЛЮ

Міцька стаяў ля дзвярэй і сачыў вачыма за прыгожай бландзінкай, якая лёгка выкручвала вальс.

Калі танец закончыўся, ён адазваўся да свайго суседа:

— Ведаеце, мне надта падабаецца гэта бляндзінка і хачу з ёй пагуляць.

— А чаму ж не, гуляйце, — адказаў сусед, — толькі потым скажыце мне, як пайшлі справы.

— А што, вас гэта цікавіць? — буркнуў Міцька.

— Не спецыяльна, — адказаў сусед, — аднак хацеў бы ведаць, бо гэта мая жонка.

МІКОЛА БЕРАЗАВЕЦ
Бельск

## МАМІН СЫНОК

— Мама, чаго маўчыш?!

— А што маю гаварыць?

— Скажы: сынок, вазьмі сабе з шафкі гэтага вялікага перніка.

ЯНКА ДУДЗІЧ
Пасынкі



ПАДРЫХТОЎКА ДА ЭКЗАМЕНАЎ
«Крокодил»




— Сябры, і ў нас трэба нешта пасадзіць.
— Дык толькі што пасадзілі нашага загадчыка.

„Szpilki"